# ДЗВІНСКІ ЎЗГОРАК

*Кроч на свой родны,
дзвінскі ўзгорак,
каб глядзець
у будучую сінь*

**ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №12 (117)
ЛІПЕНЬ 2020 ГОДА**


МЕРКАВАННЕ

## ЗА КАГО І ЗА ШТО БУДЗЕ ГАЛАСАВАЦЬ БЕЛАРУСЬ?

**Яшчэ нядаўна на гэтае пытанне ні ў кога не было дакладнага адказу. Але сёньня зразумела як белы дзень, што адзіны кандыдат для ўсіх беларусаў — Святлана Ціханоўская. Падзеі апошніх передвыбарчых тыдняў яскрава паказалі, якую вялізную падтрымку мае яна ў народа. Шматтысячныя мітынгі ва ўсіх буйных гарадах Беларусі яскрава падцвердзілі тое.**

І гэта пры тым, што яна не паабяцала народу анічога, акрамя новых сумленных выбараў, якія будуць праведзеныя цягам наступных паўгода. Гэта ж як трэба было занядбаць беларускі народ, калі ён узняўся на супрацьў уладзе?!

Але да перамогі яшчэ далёка. Справа ў тым, што пакуль галасы ў ЦВК лічыць Ярмошына, пра перамогу марыць рана. Бо як бы вы не прагаласавалі, пераможцам яна ўсё-роўна аб'явіць Лукашэнку.

А таму, каб ведаць колькі нас насамрэч, той, хто галасуе за Святлану Ціханоўскую, мусіць абараніць свой голас. Дзеля гэтага трэба проста сфатаграфаваць свой бюлетэнь за Ціханоўскую ў кабіне для тайнага галасавання. Калі ж вы прыйдзеце дадому, то трэба па вайберу ці па "тэлеграм" пераслаць фота на сайт "Голас", дзе яго ўлічаць. Гэта значыць, набраць на мабільным belarus2020.org і дзейнічаць так, як там напісана. Там адчыніцца ўчастак, на якім вы галасавалі, і вы дашлеце туды фота свайго бюлетэня.

Ні ў якім разе нельга галасаваць датэрмінова. А пра ўсе выпадкі, калі вас прымусова пагоняць на такія выбары, тэлефануйце ў рэдакцыю. Наш тэлефон ёсць у кожным нумары гэтага выдання.

Мы мусім бараніць свой голас ад несумленнай улады. Нас шмат. І з кожным днём нас становіцца ўсё больш.

Мы пераможам!

**А. Смаленскі**

ВЫБАРЫ 2020

## ЧАМУ Я НЕ БУДУ ГАЛАСАВАЦЬ ЗА ЯГО

**Улада мусіць рэгулярна змяняцца. Рэгулярная змена ўлады — прыкмета яе эфектыўнасці.**

**1.** Мы не выбіраем мясцовую ўладу, яе нам прызначае Ён. Мы не можам выбраць кіраўніком райвыканкама свайго мясцовага чалавека, які ведае ўсе рэгіянальныя праблемы. Адпаведна, мы не можам, калі трэба, потым яго хутка змяніць. А таму мясцовая ўлада страшна далёкая ад народа. Яна выбіраецца не па прафесійнай прыкмеце, а па прынцыпу асабістай адданасці Яму.

**2.** Дзяржаўныя СМІ (тэлебачанне і газеты) у Беларусі належаць адной персоне. Гэта — Ягонае тэлебачанне. Усе навіны на ім падаюцца з гледзішча Ягонай карысці. То-бок яны перакручваюцца і вывaрочваюцца патрэбным для ўлады бокам. Праўда на ТБ і не начавала. Гэты эфектыўны рычаг аб'яднання краіны ужо 26 гадоў паспяхова служыць яе раз'яднанню. Людзі, якія маюць сваю думку, не такую як у Яго, для такога тэлебачання — ворагі. Усе добрыя пачынанні ў дзяржаўных СМІ прыпісваюцца Яму. Прыкарытныя чыноўнікі, дробныя і буйныя, паказваюць рэдкае лісліўства і падлізніцтва. Яны нібы арганізавалі спаборніцтва, хто лізне Яго ніжэй. Дэградацыя такой улады дасягнула дна.

**3.** Галасы на выбарах любога ўзроўню ў Беларусі даўно не лічацца. Усё робіцца кучкай адданых чыноўнікаў, якія раз за разам прызначаюцца ў выбарчыя камісіі. А Цэнтральную Выбарчую Камісію ўзначальвае прызначаная Ім чыноўніца, для якой законы не пісаныя.

**4.** Рэдкае хамства ўлады. Называць любога, нават незнаёмага чалавека на "ты", не саромецца ў прамовах турэмнага жаргону, наўпроставых абразаў (оскорблений) — гэта, мусіць, яшчэ не ўсё, што мы ведаем пра Яго.

**5.** Гэтая ўлада страшна далёкая ад народа. На Ягоную ахову, для стварэння Ёй царскіх умоваў штодзень ідзе не адзін мільён рублёў з нашых кішэняў. Гэтая ўлада непадсправаздачная нам. Яна не паведамляе нам, колькі грошай мае Ён і куды яны ідуць. Колькі ў Яго рэзідэнцый, палацаў, самалётаў? За чый кошт пабудаваныя палацы прыкарытнікаў у Драздах?

**6.** Ён вучыць усіх, як трэба працаваць. Як трэба лячыць і вучыць, даіць, карміць, будаваць, выхоўваць дзетак… Ён вучыць з экрана, што і як трэба нам есці, як лячыцца. Ён забраў у нас адукацыю на роднай мове, бясплатнае медабслугоўванне для нас недаступнае.

**7.** Ён раскалоў нашае грамадства на "сваіх" і "чужых". Свае служаць Яму і маюць добрыя заробкі і пенсіі. Чужакі — гэта мы з вамі. Мы — ягоныя ворагі. І глухі мур (сцяна) паміж намі становіцца ўсё вышэй.

**8.** Што мы ведаем пра маральны воблік чалавека, які не жыве з законнай жонкай, мае пазашлюбных дзетак?

**9.** З Беларусі з'язджаюць лепшыя людзі, бізнесоўцы, моладзь. Мы не маем годнай працы. Людзі не маюць голасу. Што чакае такую краіну? Хто ў ёй будзе плаціць падаткі, з якіх мы атрымоўваем заробкі і пенсіі?

**10.** Дваццаць адзін год таму, калі барацьба за ўладу крайне абвастрылася, у Беларусі зніклі палітыкі: старшыня ЦВК Віктар Ганчар і міністр унутраных спраў Юрый Захаранка. Гэта не тыя людзі, якія маглі знікнуць без слядоў. Мы мусім ведаць праўду!

**Г.Станкевіч**

**Чытайце сайт Віцебскага раёна: http://vicebskreg.by**

КУЛЬТУРА

## САФІЙСКАМУ САБОРУ Ў ВІЦЕБСКУ БЫЦЬ?

**Падчас грамадзкага абмеркаваньня праекту будаўніцтва Сафійскага сабору прагучала прапанова забараніць царкве будаваць новыя храмы да завяршэньня ўсіх ужо пачатых аб'ектаў у горадзе, пішуць «Народныя навіны Віцебска».**

Як на гэта адрэагавалі гарадзкія ўлады?

Віцебскі гарвыканкам апублікаваў пратакол грамадзкага абмеркаваньня праекту будаўніцтва Сафійскага сабора на беразе Дзьвіны каля гандлёвага цэнтру «Беларусь». Згодна з пратаколам, заўваг наконт працэдуры грамадзкага абмеркаваньня не паступала, таму палічылі, што абмеркаваньне адбылося.

Архітэктурна-горадабудаўнічая рада Віцебскага аблвыканкаму палічыла практычна ўсе крытычныя заўвагі наконт праекту неадпаведнымі

***(працяг на стар. 2)***

## РАЗБУРЫ ТУРМЫ МУРЫ!

*Ён быў натхнёны і малады,
Іх незлічона было.
Ён на плошчы вёў гарады
З песняй, што блізка святло.*

*І запальвалі свечкі яму,
Плыў па-над плошчаю дым.
Ён спяваў: зруйнуем турму!
Яны спявалі за ім:*

*Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды — то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне —
І пахавае свет стары!*

*Ведалі словы напамяць — і спеў
Неслі па вуліцах так,
Што кроў кіпела і гнеў кіпеў,
І сэрцы стукалі ў такт.*

*Білі ў сто тысяч далоняў — і рытм
Ворагаў біў напавал.
Ішлі на муры ва ўсім свеце старым...
А ён усё граў і спяваў.*

*Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды — то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне
— І пахавае свет стары!*

*Так паўстаў шматтысячны рух,
Воінаў цэлая раць,
Можна помнікі зносіць і брук
На камяні разбіраць.*

*Кожны адчуў — прыйшоў яго час
Сілы аддаць барацьбе:
Хто не з намі — той супраць нас!..
Спявак быў сам па сабе.*

*Глядзеў, як шчыльныя рады
З ягонай песняю ідуць,
А песня глухне, глухне, глухне…
А муры растуць, растуць…*

*Песня «Муры» (Сцены) мае фантастычную гісторыю. Упершыню ўзнікла ў 1968 годзе па-каталонску (аўтар Люіс Льях). Праз 10 гадоў польскую версію зрабіў Яцэк Качмарскі. І песня стала адным з галоўных хітоў польскай Салідарнасці. Зараз яе спяваюць па ўсёй Беларусі на мітынгах Святланы Ціханоўскай. Пераклад на беларускую мову зрабіў Андрэй Хадановіч.*

КУЛЬТУРА

(пачатак на стар. 1)
нарматыўна-прававым актам і абавязковым для выканання патрабаваньням тэхнічных нарматыўных прававых актаў – і праігнаравала іх.

Улічваліся толькі станоўчыя водгукі аб ідэі будаўніцтва чарговага культавага аб'екту.

Гэтак, «неадпаведнай заўвагай» прызналі прапанову забараніць Віцебскай эпархіі БПЦ пачынаць любыя працы для будаўніцтва культавых збудаваньняў да таго часу, пакуль ня будуць скончаныя ўсе аналягічныя аб'екты ў горадзе Віцебску. Як мяркуюць жыхары, даўгабуды нявечаць горад.

Адзіная заўвага, наконт якой савет папрасіў тлумачэньня ў аддзеле архітэктуры і горадабудаўніцтва Віцебскага гарвыканкаму, тычылася парушэньняў у працэдуры абмеркаваньня, якія заўважыў віцяблянін Яўген Новікаў. Спадар Яўген прапанаваў у сувязі з парушэньнямі грамадзкае абмеркаваньне архітэктурна-пляніровачнай канцэпцыі аб'екту «Сафійскі сабор у г. Віцебску» адмяніць, а вінаватых у парушэньні заканадаўства прыцягнуць да адказнасьці. Гэтага зроблена не было.

Грамадзкае абмеркаваньне праекту копіі полацкага Сафійскага сабору, якую мяркуюць пабудаваць у Віцебску паміж Дзьвіной, Пілатавым ручаём і ГЦ «Беларусь», праходзіла ад 9 чэрвеня да 3 ліпеня. Паводле апытаньня, зладжанага на партале «Народныя навіны Віцебска», 58% яго ўдзельнікаў выказаліся супраць будаўніцтва храма, 24% – ня супраць будаўніцтва, але толькі ў выпадку, калі яно будзе ажыцьцяўляцца выключна за грошы БПЦ.

**Сяржук Серабро**
**news.vitebsk.cc**

ІМПРЭЗЫ

# ВЫСТАВА ЛЯЛЕК

**Наведаць выставу «Чароўны свет лялек» могуць дарослыя і дзеці ў Мазалаўскім сельскім доме Віцебскага раёна культуры да канца ліпеня.**

На выставе прадстаўлена некалькі дзясяткаў лялек, што выкананы ў розных тэхніках — з тэкстылю і прыродных матэрыялаў. Іх аўтарамі і стваральнікамі з'яўляюцца мясцовыя работнікі культуры Аксана Дрыгебка і Ала Антаненка, якія захапіліся дадзеным відам творчасці падчас тэматычных курсаў у Віцебскім абласным цэнтры павышэння кваліфікацыі кіруючых работнікаў і спецыялістаў устаноў культуры.

У дзень урачыстага адкрыцця выставы кожны з наведвальнікаў мог прыняць удзел у майстар-класе па вырабе лялек-абярэгаў. Экспанаты выклікаюць вялікую цікавасць, бо кожная лялька, прадстаўленная на экспазіцыі, мае непаўторны вобраз, сваю цікавую гісторыю стварэння.

**Андрэй СТРУНЧАНКА**
**«Жыццё Прыдзвіння»**

ВЫБАРЫ 2020

# У БЕЛАРУСІ ФАЛЬСІФІКАВАЦЬ НЕСКЛАДАНА?

**Да дня прэзідэнцкіх выбараў засталося менш за месяц. А датэрміновае галасаванне пачынаецца яшчэ раней. Ні для каго не сакрэт, што галасы на выбарах даўно не лічацца.**

Пра тое, як у Беларусі фальсіфікуюцца выбары, «Новы Час» паразмаўляў з Львом Марголіным, нацыянальным каардынатарам кампаніі назірання «Права выбару».

***— Расійскія даследчыкі кажуць, што фальсіфікацыя выбараў — не такая простая справа, як здаецца, асабліва калі на выбарчыя ўчасткі прыходзіць шмат людзей, якія галасуюць не так, як хацелі б улады. Наколькі цяжкай працай з'яўляюцца фальсіфікацыі выбараў у беларускіх умовах?***

— У Беларусі фальсіфікаваць выбары зусім не складана. Калі ў Расіі ўкідваюць бюлетэні, то ў Беларусі фальсіфікуюць пратакол. Старшыня камісіі заносіць у пратакол лічбы, якія яму «спусцілі зверху».

У Расіі ў склад выбарчых камісій уваходзяць прадстаўнікі апазіцыйных партый. У нас людзей ад апазіцыі ў камісіях няма. І ўвогуле выпадковых людзей там няма, выпадковым людзям не даюць прайсці ў склад выбарчых камісій. Там людзі, якія гэтым займаюцца не першы год.

***— Хіба там сядзяць адны зацятыя фальсіфікатары?***

— Простыя чальцы камісіі могуць самі лічыць бюлетэні сумленна. Але яны не ведаюць лічбаў у выніковым пратаколе. Яны лічаць толькі сваю частку бюлетэняў і аддаюць лічбы старшыні. Старшыня гэтыя лічбы нібыта заносіць у пратакол, і дае ім падпісаць яго. Але яны не бачаць, адкуль бяруцца іншыя лічбы ў пратаколе, які яны падпісваюць. Кожны з іх бачыць толькі свае лічбы, але не бачыць лічбаў іншых чальцоў камісіі, і не можа праверыць інфармацыю ад іх.

У іншых краінах сарціроўку бюлетэняў вядзе адзін чалец камісіі, які дэманструе бюлетэні ўсім прысутным і агучвае прозвішча кандыдата, за якога аддадзены голас. У нас лічбы не абвяшчаюць уголас, а даюць старшыні на паперцы.

***— Што нам рабіць, каб абцяжарыць для ўладаў задачу фальсіфікацыі выбараў? Ці робяць больш складанай гэтую задачу спробы, няхай сабе і няўдалыя, трапіць у склад камісіяў, а таксама спробы назіраць за выбарамі?***

— Назіранне абцяжарвае фальсіфікацыі. Дзякуючы назіральнікам за 26 гадоў існавання гэтага рэжыму міжнародная супольнасць не прызнала ніводныя беларускія выбары сумленнымі і празрыстымі. А калі б не было назірання, улады маглі б зрабіць так, каб міжнародная супольнасць прызнала выбары дэмакратычнымі: запрасілі б міжнародных назіральнікаў, зрабілі б для іх некалькі ўзорных участкаў... Але, дзякуючы назіральнікам, рэжым не здолеў легітымізаваць сфальсіфікаваныя вынікі выбараў. Таксама абцяжарваюць фальсіфікацыі спробы прадстаўнікоў незалежнай грамадскасці трапіць у камісіі і абскарджванне адмоваў.

Але цяперашняя сітуацыя кардынальна адрозніваецца ад ранейшай. Калі раней у нас было толькі два назіральнікі на прыблізна 300–350 участкаў, то-бок па 600–700 назіральнікаў на прыкладна 70 тысячаў сяброў камісій, — то цяпер у нас некалькі тысячаў чалавек хочуць назіраць за выбарамі. Калі на кожным участку будзе па два, тры, чатыры, а то і пяць-сем назіральнікаў, і яшчэ будуць стаяць людзі на вуліцы, гэта будзе аказваць псіхалагічны ціск на чальцоў камісіі. Пад гэтым псіхалагічным ціскам, ці, можа, наадварот — у выніку гэтай маральнай падтрымкі, — некаторыя чальцы камісіі могуць вырашыць адмовіцца ад удзелу ў фальсіфікацыях.

Да таго ж, можна аказаць вялікае ўздзеянне на чальцоў камісій, калі не толькі апазіцыя будзе заахвочваць іх працаваць сумленна і не ўдзельнічаць у фальсіфікацыях, але калі гэтае ж самае будуць казаць іх суседзі, родныя і знаёмыя. Фактар грамадскага ціску вельмі значны, і пад яго ўплывам сістэма можа зламацца. Рэжым моцны, але калі ён у нейкім месцы трашчыць, то трашчыць увесь.

Аднак, каб перашкодзіць фальсіфікацыі выбараў, чальцам камісіі мала толькі рашучасці і сумлення: яны павінны ведаць, што ім рабіць, каб процідзейнічаць фальсіфікацыям. Патрэбна, каб чалавек адмовіўся падпісваць пратакол, у лічбах якога не ўпэўнены; каб ён запатрабаваў звераць лічбы ў ім з лічбамі ад усіх чальцоў камісіі; каб ён сфатаграфаваў гэты пратакол... Урэшце, ён мае права пералічыць галасы, бо ён падпісваецца за агульныя вынікі галасавання, а не за свой стос бюлетэняў. З гэтай мэтай мы рыхтуем інструкцыі для чальцоў камісій і размесцім іх на сайце кампаніі «Права выбару», а таксама будзем перадаваць гэтую інфармацыю праз незалежныя СМІ.

***— То-бок, на вашым сайце можна будзе лёгка знайсці інфармацыю, якую можна будзе даваць чальцам камісій, каб «узброіць» іх на выпадак, калі яны захочуць працаваць належным чынам?***

— Так.

***— А ці можна недзе знайсці кантакты ўсіх чальцоў камісій, каб заахвочваць іх праявіць прынцыповасць і перашкодзіць фальсіфікацыі выбараў?***

— А вось гэта — самае цікавае пытанне! Іх кантакты не знойдзеш, нідзе ў адкрытым доступе няма ані іх месца жыхарства, ані нават месца працы. Фармальна чальцы камісіі накіроўваюцца ад розных арганізацый. Але на практыцы — камісіі фарміруюцца па вытворчай прыкмеце: усе чальцы камісіі працуюць разам.

Таму ўвесь спадзеў — на людзей, якія асабіста ведаюць чальцоў камісій: іх родных, суседзяў, знаёмых, сяброў. А таксама на незалежныя СМІ. Палохаць не варта, але трэба казаць, што ім і іх дзецям у гэтай краіне жыць далей.

***— Калі нехта з чальцоў камісіі будзе супраціўляцца фальсіфікацыям, што яму за гэта можа пагражаць?***

— Ніякіх небяспекаў, акрамя адной: могуць звольніць з працы.

***— Звальненне з працы ва ўмовах Беларусі, дзе няма значнай грашовай дапамогі беспрацоўным, — таксама значная небяспека. А якія ёсць юрыдычныя магчымасці абараніцца ад гэтай небяспекі?***

— Гэта залежыць ад таго, калі заканчваецца кантракт. Калі ён заканчваецца хутка, то пры нашай кантрактнай сістэме яго могуць папросту не працягнуць.

***— У Расіі Шульман і Кац распавядаюць, што, акрамя назірання за выбарамі, ёсць яшчэ статыстычныя метады выяўлення фальсіфікацый. Ці ёсць магчымасць у Беларусі выявіць фальсіфікацыі з дапамогай статыстычнага аналізу вынікаў выбараў?***

— Статыстычныя метады праверкі ў Беларусі не працуюць. Бо, калі ў Расіі ёсць участкі, на якіх у склад камісій уваходзяць прадстаўнікі апазіцыі, і менавіта з данымі па іх можна параўноўваць іншыя даныя, то ў Беларусі такіх участкаў няма, ўсе камісіі падкантрольныя рэжыму.

У Беларусі мы можам кантраляваць толькі яўку, і толькі на тых участках, на якіх ёсць назіральнікі: калі яўка, паводле падліку назіральнікаў, склала 45 працэнтаў, а ў выніковым пратаколе пазначаная 60 працэнтаў, то бачна, што ёсць неадпаведнасць, ёсць фальсіфікацыі. Але быў ці не быў чалавек на ўчастку — гэта можна адсачыць, толькі калі нехта падлічвае гэта; то-бок, у выпадку калі ёсць назіральнікі.

Аднак, акрамя незалежных назіральнікаў, у нас ёсць таксама назіральнікі праўладныя: напрыклад, ад «Белай Русі», ад БРСМ. Яны нічога не робяць. І, калі незалежны назіральнік нешта абскарджвае — прыходзіць адказ, маўляў, мы апыталі іншых назіральнікаў, і яны вашу інфармацыю не пацвярджаюць.

***— У гэтую выбарчую кампанію зноў паўстала тыповая дылема: «удзел ці байкот». Таму хачу запытацца: як пераправерыць кожны з гэтых варыянтаў нашых электаральных паводзінаў у маленечкі крок да дэмакратызацыі Беларусі? Як правільна ўдзельнічаць, і як правільна байкатаваць?***

— Тут ёсць розныя рэцэпты. Ёсць рэцэпт Бабарыкі: фатаграфаваць свой бюлетэнь разам з пашпартам, каб на фота былі бачныя і нумар бюлетэню, і нумар пашпарту, і такім чынам публічна засведчыць свой голас, каб яго немагчыма было сфальсіфікаваць. Ёсць, з іншага боку, рэцэпт Паганяйлы: адрываць кавалак бюлетэню з подпісамі чальцоў камісіі, каб бюлетэнь павінен быў лічыцца сапсаваным, і забіраць гэты кавалак з сабою, каб потым прад'яўляць яго як доказ (можна ананімны) свайго байкоту выбараў. Прапануюцца розныя рэцэпты, і я не бяруся казаць, якія з іх найбольш эфектыўны.

***— З якімі крыніцамі інфармацыі, з якімі даследаваннямі вы прапануеце азнаёміцца, каб прыняць найбольш свядомае рашэнне наконт свайго ўдзелу ці байкоту, і каб максімальна выкарыстаць выбары для дэмакратызацыі Беларусі?***

— Не магу раіць даследаванні: я не тэарэтык, а практык. Але, калі вы хочаце пазмагацца за сапраўдныя дэмакратычныя выбары, вы можаце на сайце кампаніі «Права выбару» знайсці інфармацыю, як зрабіцца назіральнікам і як правільна назіраць за выбарамі.

**Маргарыта Тарайкевіч**
**«Новы Час»**

АБАРОНІМ ГОЛАС!

# ПАДТРЫМАЙЦЕ ІНІЦЫЯТЫВУ «СУМЛЕННЫЯ ЛЮДЗІ»

**У грамадзянскую ініцыятыву «Сумленныя людзі» увайшлі больш за 300 тысячаў чалавек і больш за сотню прадпрыемстваў, паведамілі прадстаўнікі штабу кандыдата ў прэзыдэнта Святланы Ціханоўскай на мітынгу ў Жлобіне (Гомельская вобласьць) 26 ліпеня.**

Удзел у мітынгу, які трансьляваўся на YouTube, узялі, згодна са зьвесткамі арганізатараў, сотні людзей. Яны разгарнулі шматлікія плякаты ў падтрымку Ціханоўскай, а таксама Веранікі Цапкалы і Марыі Калесьнікавай — прадстаўніц штабоў незарэгістраваных кандыдатаў Валера Цапкалы і Віктара Бабарыкі. На мітынгу былі таксама разгорнутыя бел-чырвона-белыя сьцягі, людзі скандавалі «Перамен!».

Ціханоўская падзякавала мясцовым жыхарам за «цёплы прыём». «Я звычайная жанчына — маці і жонка. Мне не патрэбная ўлада, я не палітык, я ў палітыцы бяз году тыдзень», — падкрэсьліла яна. Як заявіла кандыдат, першым крокам, які яна зробіць на пасадзе прэзыдэнта, будзе вызваленьне з турмаў палітычных і эканамічных зьняволеных і прызначэньне новых — сумленных і свабодных — выбараў, падчас якіх кожны голас будзе ўлічаны. Паводле яе слоў, усе кандыдаты, якія будуць на волі і палічаць неабходным балятавацца ў прэзыдэнты Беларусі, прэзэнтуюць свае праграмы. «Вы іх пачытаеце і зможаце прагаласаваць за годнага», — заявіла Ціханоўская.

Як адзначыў падчас мітынгу прадстаўнік аб'яднанага штаба Ціханоўскай, у ініцыятыву «Сумленныя людзі» увайшлі ў тым ліку супрацоўнікі «пасьпяховых кампаній у сфэры высокіх тэхналёгій», якія распрацавалі «галоўныя праекты, што дапамогуць зрабіць гэтыя выбары па-сапраўднаму сумленнымі і справядлівымі, каб кожны голас быў улічаны».

Паводле яго слоў, для гэтага неабходна праз сайт **belarus2020.org** **спампаваць праграму анлайн-плятформы «Голас».**

«Усе сэрвэры знаходзяцца па-за межамі Беларусі, — паведаміў прадстаўнік штаба. — Нашыя айцішнікі зрабілі так, што ні адзін голас немагчыма падрабіць і зьмяніць. Кожны выбарчы ўчастак улічаны».

Святлана Ціханоўская і прадстаўнікі аб'яднанага штабу заклікалі галасаваць выключна ў дзень выбараў — 9 жніўня. «Ні ў якім разе нельга галасаваць датэрмінова, а толькі 9 жніўня, пажадана бліжэй да вечара, каб пераканацца, што замест вашага ўжо не стаіць нейкі подпіс», — заявіла Ціханоўская. Прадстаўнікі штабу таксама заклікалі адпраўляць на плятформу «Голас» фатаграфіі запоўненага бюлетэня і інфармаваць ініцыятыву «Сумленныя людзі» пра факты прымусу галасаваць датэрмінова. «Сёлета можа зьмяніцца ўсё! — заявіла Ціханоўская ў фінале мітынгу. — Толькі разам мы здолеем пабудаваць краіну для жыцьця».

**Радыё Свабода**

ГАЛОЎНАЯ ЗАДАЧА

# НЕ БОЯТЬСЯ И ДЕЙСТВОВАТЬ!

**Бойкот «выборов». Протестное голосование. Плошча. Общенацио-нальная забастовка. Жалобы, суды, иски и петиции. Мы слышим слишком много предложений. А остается у нас всего три недели. Уже нет времени выяснять, какая стратегия лучше, какое предложение выбрать. До 9 августа все силы необходимо сконцентрировать в протест, в любой его форме.**




Режиму необходимо предъявить наше решительное «нет». Чем больше нас, тем слабее режим. Режим должен потерпеть поражение — тогда мы и будем решать, что же делать дальше. Пока мы не вместе, режим нас переиграет и передавит по одиночке.

Время «выборов» — ахиллесова пята режима. Именно в такие периоды диктатуры максимально слабы. Диктаторы не допускают реальных выборов, а поддельные «выборы» нужны им для создания иллюзии общественной поддержки. 26 лет нашему режиму удавалось создавать такую иллюзию, в 2020 году этого добиться совсем непросто.

Общество не хочет продолжения режима, не хочет видеть Лукашенко во главе государства, общество желает перемен. Общество против режима, режим против общества. Кто кого?

Что будет делать режим, чтобы подавить общество и продлить правление Лукашенко, мы хорошо представляем. А что может общество? Общество может очень и очень многое.

Диктаторские режимы держатся на согласии общества. Общество может не любить диктатора, может даже ненавидеть его — но соглашаться на существование режима. Причины для этого могут быть разные. Кто-то соглашается, потому что ему этот режим выгоден. Кто-то соглашается, думая, что оппозиция еще хуже. Кто-то соглашается терпеть режим, потому что боится внешнего врага больше своего диктатора.

Общество может очень хотеть сменить режим, но быть не способным это сделать из-за своей слабости и неорганизованности.

Уже сейчас у Лидии Ермошиной есть цифра, которую нарисуют в «поддержку» Лукашенко. Может быть, еще решают, сколько процентов написать другим кандидатам. Но кто же еще не знает цену этим цифрам?

Мы знаем, что режим солжет и сфальсифицирует результаты голосования. А что мы знаем про себя? Что общество знает об обществе?

Совместными усилиями оппозиции и сторонников новых кандидатов в президенты за два месяца удалось создать массовое ожидание перемен. Общий тон независимых медиа, рассуждений обывателей, аналитиков и комментаторов сводится к тому, что ОБЩЕСТВО ЖАЖДЕТ ПЕРЕМЕН.

Взрывная популярность Виктора Бабарико, Валерия Цепкало и Сергея Тихановского является прямым и косвенным подтверждением того, что ОБЩЕСТВО ВЫСТУПАЕТ ПРОТИВ РЕЖИМА.

Поэтому протестный электорат можно оценивать умножением числа участников уличных протестов на 20-50, а то и на 100. То есть, 1000 человек на акции протеста — это 100 000 сторонников перемен…

А что же делать? Признаем честно: единого плана действий не было и нет. И уже не будет.

В центре внимания широкой общественности сейчас находится триумвират из кандидата в президенты Светланы Тихановской, координатора штаба Виктора Бабарико Марии Колесниковой и Вероники Цепкало. Давайте остановим критику и оставим сомнения, на них больше нет времени. Голос этих трех женщин сейчас звучит громче всего, внимание общества обращено к ним, и все, кто доверяет им, пусть делают то, что они предлагают.

Еще одно из больших достижений белорусского общества характеризуется словом самоорганизация. Тысячи людей, не дожидаясь планов и разрешений от кого бы то ни было, включились в борьбу с эпидемией COVID-19. Тысячи людей участвуют в сборе помощи репрессированным, благотворительных инициативах помощи больным детям, жертвам домашнего насилия, бездомным животным.

Если направить все средства и усилия всех волонтеров на реализацию одного плана — горы можно было бы свернуть. Но зачем нам горы ворочать? Нам нужны перемены в стране, нужно сменить режим. Для этого нужно, чтобы «выборы» диктатора не удались, и были назначены новые выборы, такие, которых мы хотим, честные и свободные. И общество сейчас может это сделать.

Сделать это можно через тотальный бойкот. Это не тот бойкот, о котором я говорю с ноября прошлого года. Это уже не бойкот «выборов», поскольку штаб Тихановской, Бабарико и Цепкало призывает идти голосовать. Тотальный бойкот — это множество маленьких простых дел. Порой символических.

Можем ли мы бойкотировать официальные медиа? Не включать БТ, ОНТ, СТВ? Можем. Этого может никто и не заметить, но такое решение может изменить настроение в отдельно взятой семье. А еще телевизоры в общественных местах, поликлиниках и кафе. Это совсем простое действие. Как и перестать покупать или выписывать официальные газеты — и расскажите об этом всем знакомым пенсионерам и людям, которые всё еще их читают.

Записывайтесь в наблюдатели. Наблюдателей много не бывает. Не можете наблюдать сами — знакомьтесь с наблюдателями, которые будут на ваших участках, в вашем районе. Может быть, им нужно будет отдыхать в эти напряженные дни, может быть, их можно накормить бутербродами или принести минералку. Солидарность и помощь в таких ситуациях дорого стоит.

Проявите солидарность с репрессированными гражданами. Это можно сделать через кампанию BY_Help, которая собирает средства на оплату штрафов, суток и адвокатов для задержанных участников мирных акций солидарности и гражданского протеста.

В трудовых коллективах творится произвол, людей будут принуждать к досрочному голосованию. Не ходите на такие собрания, не разговаривайте с агитаторами. Ваше начальство — такие же граждане, как вы. Их заставляют. Помогите им не выполнять то, к чему их принуждают.

И если уж вы придёте голосовать — делайте, например, то, что рекомендует Гарри Погоняйло или «Честные люди». Помните, что если мы будем знать, что наши голоса украдены, результаты сфальсифицированы, кандидаты, их штабы, юристы, правозащитники будут пытаться добиться справедливости. Им нужна будет помощь и поддержка. Эту поддержку им может оказать только массовая акция протеста

…Главная задача — не дать режиму нас обмануть, не допустить очередной преступной «элегантной победы». Если у них не получится — это будет нашей победой. А что потом? Потом обретает смысл перезагрузка страны и государства — наша Четвертая Республика.

*(скарочана)*

**Владимир МАЦКЕВИЧ**
**"БЕЛАПАН"**

НАША МІЛІЦЫЯ

# МІЛІЦЫЯ БУДЗЕ З НАРОДАМ, КАЛІ АДЧУЕ СІЛУ НАРОДУ

**14 ліпеня мітынгоўцы ў Менску скандавалі «міліцыя з народам!» Але нягледзячы на заклікі, амапаўцы жорстка затрымлівалі ўдзельнікаў мірнага пратэсту.**

І сілавікі надалей будуць выконваць загады кіраўніцтва, пакуль не пабачаць, што сіла на баку народу, выказаў «Белсату» такую думку Мечыслаў Грыб, старшыня Вярхоўнага Савету 12 склікання, генерал-лейтэнант міліцыі, Генеральны сакратар БСДП(Грамада).

Падчас сёлетняй прэзідэнцкай кампаніі міліцыянты затрымалі некалькі сот чалавек. Мірных мітынгоўцаў гвалтоўна хапаюць амапаўцы і асобы ў цывільным. Затрыманні адбываюцца нягледзячы на тое, што ўдзельнікі акцыяў скандуюць «міліцыя з народам!» Але выглядае, што міліцыя пакуль бароніць уладу, кажа Мечыслаў Грыб, старшыня Вярхоўнага Савету 12 склікання, генерал-лейтэнант міліцыі.

«Для таго, каб міліцыя перайшла на бок народу, то патрэбна, каб яны пабачылі, што сіла на баку народа, а не на баку ўлады. Тады ўсе яны, і злыя, і добрыя міліцыянты, пяройдуць на бок народу. Нават пабягуць. Але пакуль яны такога не бачаць, выконваюць загады сваіх кіраўнікоў і ўлады», — адзначае Мечыслаў Грыб.

Генерал-лейтэнант міліцыі кажа, што цяпер у міліцыянтаў не самыя лепшыя ўмовы, але яны вымушаныя выконваць загады, паколькі таксама абмежаваныя ў сваіх правах, гэтак жа, як і большасць беларусаў, якія працуюць паводле кантрактаў.

«Я б не сказаў, што цяпер у іх царскія выгоды. Насамрэч няма добрых умоваў. Сярэднія ўмовы працы, не вельмі высокія заробкі, стаўленне з боку кіраўніцтва не вельмі добрае і абароны ніякай няма. Кіраўнік вырашае ўсё, прафзвязаў няма. Знайсці падтрыманне таксама вельмі складана. Там не так і проста, як падаецца на першы погляд. Але нават нягледзячы на гэта, яны выконваюць загады. І на бок людзей стануць толькі тады, калі пабачаць, што там сіла», — кажа Мечыслаў Грыб.

**СК belsat.eu**

ДЭКЛАРАЦЫЯ

# ЧТО ЗАДЕКЛАРИРОВАЛ ЛУКАШЕНКО

**Судя по декларации о доходах, действующий президент Беларуси зарабатывает более 4,5 тысячи долларов в месяц. Александр Лукашенко вновь оказался самым богатым из кандидатов в президенты. Его годовой доход растет от выборов к выборам.**

Центральная избирательная комиссия опубликовала информацию о доходах и имуществе кандидатов в президенты за 2019 год. Naviny.by проанализировали эти сведения и сравнили их с данными за предыдущие годы.

**Лукашенко — самый богатый по доходам**

За прошлый год Александр Лукашенко задекларировал общую сумму годового дохода в размере 117 068 рублей или 4671 доллар в месяц (здесь и далее по средневзвешенному курсу белорусского рубля по отношению к доллару). Источником дохода указана только заработная плата. Хотя по возрасту, 30 августа Лукашенко исполнится 66 лет, президент уже шесть лет как должен получать пенсию.

Движимого или недвижимого имущества у действующего президента нет. Даже захудалого автоприцепа «Зубрёнок». А оно ему и не надо, ведь президента всем щедро обеспечивает государство — резиденциями, дорогими автомобилями, персональными самолетами.

А вот супруга по-прежнему есть, хотя ее уже сто лет никто не видел. Галина Лукашенко задекларировала жилой дом в Шклове площадью 196 квадратных метров, земельный участок в Шклове площадью 0,1498 га, 56 акций Шкловского маслодельного завода. Кроме того, первая леди владеет половиной жилого дома в деревне Большой Межник Шкловского района площадью 54 квадратных метра. Общая сумма годового дохода Галины Лукашенко составила 5560 рублей (пенсия и доходы от акций) или 222 доллара в месяц.

У других кандидатов в президенты годовой доход оказался ниже. У сопредседателя общественного объединения «Говори правду» Андрея Дмитриева он составил 13 560 рублей или 541 доллар в месяц. В собственности политика есть квартира в Минске площадью 49,8 квадратного метров. Его супруга Татьяна Дмитриева за прошлый год заработала чуть более 28 тысяч рублей или 1118 долларов в месяц. На нее записан автомобиль «Ниссан Кашкай» (2016 года выпуска).

Экс-депутат Палаты представителей Анна Канопацкая за прошлый год заработала свыше 45 тысяч рублей или 1825 долларов в месяц. В Минске у кандидата в президенты есть квартира площадью 84,7 квадратного метра, административное помещение площадью 47,7 квадратного метра и гараж. Она также владеет автомобилем «Рейндж Ровер» (2017 года выпуска) и 91 акцией Пуховичского комбината хлебопродуктов.

Годовой доход Светланы Тихановской за прошлый год составил 15 784 рубля или 630 долларов в месяц. Источниками дохода указаны пособия на детей и по уходу за ребенком-инвалидом, социальная пенсия ребенку-инвалиду и доходы по договорам дарения. Имущества у кандидата в президенты нет. Вместе со своим мужем Сергеем Тихановским она владеет долями в компаниях «Студия Компас» и «Радуга развлечений» (находится в ликвидации).

За популярным блогером числится квартира в Минске площадью 66 квадратных метров, жилой дом в деревне Огородня Добрушского района площадью 192 квадратных метра, легковые автомобили УАЗ-31514 (2003 года выпуска) и «Форд Мондео» (1994 года выпуска). За прошлый год Сергей Тихановский заработал чуть более 75 тысяч рублей или 2993 долларов в месяц. Источниками дохода указаны заработная плата, доходы от краудфандинга и индивидуальной предпринимательской деятельности.

Годовой доход председателя партии «Белорусская социал-демократическая Грамада» Сергея Черечня за прошлый год составил 96 тысяч рублей или 3830 долларов в месяц. Этот доход он получил по договору купли-продажи. Политик владеет долями в компаниях «Интернейшнл Технолоджи Эдвайзерс» (50%), «С58 Технолоджиз» (50%) и «Информационный Спектр» (50%).

**Как менялись доходы Лукашенко**

От выборов к выборам годовой доход Александра Лукашенко растет. По сравнению с 2014 годом он вырос на 4,2%, а по сравнению с 2000 годом — более чем в десять раз.

***… Накануне выборов 2006 года***

В 2005 году среднегодовой доход Александра Лукашенко составил 59 млн рублей или 2288 долларов в месяц. Источник дохода — заработная плата…

В 2005 году у Александра Лукашенко не имелось имущества, принадлежащего ему на праве собственности. У супруги Галины Лукашенко задекларированы дом в деревне Рыжковичи Шкловского района общей площадью 174 кв.м, а также 56 акций Шкловского маслодельного завода. У тещи Елены Желнерович — дом в деревне Большой Межник Шкловского района общей площадью 50 кв. м. У матери и сыновей Александра Лукашенко имущества не имелось.

***Накануне выборов 2010 года***

В 2009 году Александр Лукашенко заработал за год свыше 94 млн рублей или 2810 долларов в месяц. Это был самый высокий доход среди остальных девяти кандидатов в президенты.

В 2009 году у Лукашенко не имелось имущества, принадлежащего ему на праве собственности.

У супруги Галины Лукашенко задекларирован жилой дом в Шклове общей площадью 174 кв. м, 56 акций Шкловского маслодельного завода. Кроме того, она владела половиной доли на жилой дом деревне Большой Межник Шкловского района общей площадью 53,8 кв. м.

***Накануне выборов 2015 года***

В 2014 году среднегодовой доход Александра Лукашенко превысил 551 млн рублей или 4481 доллар в месяц. Источник дохода — заработная плата. Эта самый высокий среднегодовой доход среди всех четырех кандидатов в президенты.

Имущества, принадлежащего ему на праве собственности, у Лукашенко по-прежнему не имелось.

У супруги Галины Лукашенко задекларирован жилой дом в Шклове общей площадью 115 кв. м., 56 акций Шкловского маслодельного завода и половина доли на жилой дом в деревне Большой Межник Шкловского района общей площадью 53 кв. м.

**WikiLeaks: состояние Лукашенко — 9 млрд долларов**

В декабре 2010 года британское издание The Guardian со ссылкой на интернет-ресурс WikiLeaks сообщало, что состояние Александра Лукашенко оценивается в 9 млрд долларов.

The Guardian опубликовало резюме из депеши 2006 года, засекреченной тогдашним послом США в Беларуси Джорджем Кролом. В нем сообщалось, что экономический сотрудник посольства получил список 50 богатейших олигархов Беларуси с оценками чистой стоимости их активов. Глава белорусского государства «комфортабельно разместился на вершине списка 50 богатейших олигархов страны».

Комментируя информацию, распространенную WikiLeaks, Александр Лукашенко заявил: «Если найдете эти деньги, мне отдайте один процент, а 99% забирайте себе»…

*(скарочана)*

**Александр ЯРОШЕВИЧ**

ЦЭНТРВЫБАРКАМ

# ФІНАЛЬНЫ АКОРД ЯРМОШЫНАЙ

**Лідзія «11%» Міхайлаўна выканала заключны акорд сваёй, мякка кажучы, шматгадовай кавацыны. Яна адмовіла ў рэгістрацыі Валерыю Цапкалу, не прызнаючы ільвіную долю сабраных яго ініцыятыўнай групай подпісаў; датэрмінова прызнала вінаватым (падкрэс-лім: без суда) Віктара Бабарыку, адмовілася запрашаць замеж-ных назіральнікаў. Цяпер яна дэ факта звяла назіранне за ходам галасавання да ягонай імітацыі: абмежаваную колькасць назіральнікаў складуць прадстаўнікі тых жа арганізацыяў, што раней склалі ўчастковыя выбарчыя камісіі. Левая рука будзе назіраць за правай.**

І ўсё гэта — на фоне заяў аб сваёй стомленасці, аб апошняй выбарчай кампаніі, якая праводзіцца ёю, і пра непазбежнасць адстаўкі.

Дом у Драздах будзе прададзены. Як ужо заяўлялася раней, пенсіянерцы Ярмошынай будзе не пад сілу яго ўтрымліваць.

Адважуся выказаць адно асабістае меркаванне: і няма чаго ўтрымліваць. З краінай, якой дваццаць шэсць гадоў таму выпускніца юрфаку Калінінградская ўніверсітэту дапамагла ўпэўнена ступіць на шлях дыктатуры, Лідзію Міхайлаўну больш нічога не будзе звязваць. Хутчэй за ўсё — гэта на маю думку, зразумела, — яна проста пераедзе ў Калінінград, дзе ў яе ёсць сяброўкі, прыме расейскае грамадзянства і забудзе сваю дзейнасць на пасадзе кіраўніка беларускай ЦВК як кепскі сон.

Лідзія Міхайлаўна добра разумее: выбары, якія праводзіцца ёю, ужо асуджаныя на непрызнанне дэмакратычнымі як унутры самой краіны, так і за яе межамі. Працэнт даверу да інстытуту канчаткова абрынецца, санкцыі Захаду, хутчэй за ўсё, будуць аднаўленыя, а значыць, далей Калінінграда ехаць будзе няма куды. Вось, у Калінінград і паедзе. Старая немецкая архітэктура створыць ілюзію еўрапейскасці. Зноўтакі, магіла вялікага філосафа пад рукой: Пуцін любіць пагаварыць з Махатмай Гандзі, Ярмошынай будзе пра што перакінуцца словам з Імануілам Кантам.

Немаладую, разумную і цынічную жанчыну кінулі на амбразуру, затыкаць прарэху, якая ўтварылася ў выніку рэзкага падзення лукашэнкаўскага рэйтынгу. Сумна, але яна ўсё разумее. Не будзе ўлада страляць па суграмадзянах — можа быць, Лідзія Міхайлаўна з'едзе мірна. Будзе страляць — першы ж залп пакіне адтуліну ў яе лёсе. Далей удакладняць не будзем.

Ёй ужо ўсё роўна, што будзе і з намі, і з краінай. На сабе яна паставіла крыж, так што цяпер застаецца толькі абводзіць яго, як гэта робяць нудныя школьнікі, робячы ўсё больш і больш тоўстым.

І ўжо тым больш ёй усё роўна, што будзе з кандыдатам у прэзідэнты, чые патрабаванні яна так безумоўна пераўтварае ў рэальнасць. У рэшце рэшт, калі яе ўласная жыццё скончанае, чаму яна павінна клапаціцца аб тым, каб падоўжыць яшчэ чыесьці? Хлопчык дарослы, галава на плячах ёсць, хай думае аб сабе сам.

У кагосьці ёсць сумневы аб тым, які вынік яна абвесціць 10 жніўня? У мяне няма. Хоць рэдакцыя сайта можа мець і іншае меркаванне.

*(скарочана)*

**Аляксандр Фядута**
**https://belsat.eu**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 29.07.2020 у 17.20
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.